


Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

16 лістапада 2018 года №46 (1229)

# Пераможца нацыянальнага кінафестывалю «Лістапад» Мара Тамковіч: Ашмяны – месца, якое я адчуваю родным



старонка 2

На фота: рэжысёр Мара Тамковіч у Ашмянах з бабуляй Стасяй. Фота забяспечанае Марай ТАМКОВІЧ.



ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Яўрэйскую спадчыну абмяркуюць у Ашмянах

**АШМЯНЫ**

Ашмянскі краязнаўчы музей імя Багушэвіча 15 лістапада ў 15:00 запрашае наведаць гістарычную гасціную. Сёлета тэмай для абмеркавання стане яўрэйская спадчына Ашмянаў.

У праграме мерапрыемства пад назвай «Ля вытокаў праўды» – выступленні даследчыкаў яўрэйскай тэматыкі, успаміны сведак ваенных гадоў, прагляд відэаролікаў, музычныя нумары ад выкладчыкаў Ашмянскай дзіцячай школы мастацтваў і іншае. Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

## У мінулыя выхадныя да Крэўскага замка прыехала восем машын з камянямі

**СМАРГОНЬ**

У мінулым нумары мы пісалі пра тое, што журналіст і грамадскі актывіст **Глеб Лабадзенка** абвясціў збор камянёў для Крэўскага замка.

У выхадныя неабыякавыя да лёсу замка людзі адгукнуліся на заклік. Як распавёў майстар **Сяргей Бандарэнка**, жыхар суседняй вёскі Чухны, да замка прывезлі восем машын камянёў.

Да добрай справы далучыліся таксама паэт **Уладзімір Някляеў** з братам **Іванам Магерам**.

– Здаўна ў Крэве існаваў праклён: «Бадай табе ўсё жыццё камяні на Крэўскі замак цягаць». Вось і мы з братам Іванам былі ў гэтыя выхадныя «праклятыя», – сказаў Уладзімір Пракопавіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне зладзілі мерапрыемствы да стагоддзя заканчэння Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА**

Памятныя імпрэзы правялі 11 лістапада.

Прадстаўнікі фонду «Крокі», краязнаўцы, музейшчыкі і неабыякавыя да гісторыі людзі сабраліся ля капліцы-помніка на гарадскіх могілках на вуліцы 1 Мая.

Пасля літургіі ўсклалі кветкі да памятных пліт з імёнамі загінулых пры вызваленні горада ў 1915 годзе.

Таксама ўдзельнікі наведалі магілу вілейчаніна, удзельніка Нарачанскай аперацыі, які памёр ад ран і пахаваны на вілейскіх гарадскіх могілках у 1916 годзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Навукоўцы знайшлі новы верш Максіма Багдановіча

Навукоўцы-літаратуразнаўцы Беларусі і Расіі знайшлі раней невядомы верш класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.

Пра гэта паведаміў дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы **Рыгор Рапота** 13 лістапада ў Маскве на адкрыцці экспертна-медыйнага форуму.

Нагадаем, што жыццё Максіма Багдановіча звязанае з Маладзечаншчынай. У 1911 годзе паэт адпачываў і натхняўся ў фальварку Ракуцёўшчына. У 1970-х гадах гэта месца адкрыў гісторык **Генадзь Каханоўскі**.

**Паводле БелТА.**

## Памёр кампазітар Ігар Лучанок

На 81-м годзе жыцця памёр кампазітар Ігар Лучанок.

Ён нарадзіўся ў 1938 годзе ў Мінску ў сям'і доктара. У хуткім часе сям'я пераехала ў Мар'іну Горку.

У Мінск вярнуліся толькі пасля вайны. Тут Лучанок вучыўся ў музычнай школе пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, яго першым інструментам былі цымбалы. У студэнцкія часы яго настаўнікамі ў кампазітарскім майстэрстве былі Анатоль Багатыроў і Ціхан Хрэннікаў.

Лучанок 35 гадоў узначальваў Беларускі саюз кампазітараў.

Кампазітар быў заўсёдным удзельнікам фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Фестываль, які ладзілі летам, прысвяцілі 80-годдзю кампазітара. Тут яму прысвоілі званне Ганаровага грамадзяніна Мінскай вобласці.

Ігар Лучанок – аўтар вядомых песень «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Мой родны кут», «Спадчына», «Світанак».

**Аддзел інфармацыі.**

## На Вілейшчыне знайшлі старую драўляную фігурку Хрыста

**ВІЛЕЙКА**

Знаходка чакала старшыню Беларускага таварыства аховы помнікаў Беларусі **Антона Астаповіча** на старых могілках побач з вёскай Казаны, што ў Любанскім сельсавеце.

Фігурка была прыбітая на драўляны крыж. Пра гэта Антон Астаповіч расказаў у сацыяльных сетках. Фігурку ён перадаў у мастацкі музей у Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**



Мара-Тамковіч (Courtesy Photo)

Мара Тамковіч з узнагародай ад «Лістапада».

# Фільм рэжысёра з ашмянскімі каранямі перамог на фестывалі «Лістапад»

**АШМЯНЫ**

**Найлепшым гульнявым фільмам нацыянальнага конкурсу на «Лістападзе» стала стужка рэжысёра Мары Тамковіч «Дачка».**

Цяпер Мара Тамковіч жыве ў Польшчы.

Яна – дачка беларускіх журналістаў **Аляксандра** і **Ірыны Тамковічаў**, якія нарадзіліся ў Ашмянах і жылі на суседніх вуліцах. Сувязяў з радзімай бацькоў Мара не губляе. На мінулых выхадных пераможца «Лістапада» ездзіла туды да бабулі.

– Ашмяны – мая другая радзіма, – расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» Мара. – Адсюль паходзяць мае бацька і маці. Яны жылі на суседніх вуліцах. Тут скончылі школы, праўда, розныя. Адсюль паехалі вучыцца.

Калі будучы рэжысёр была маленькай, яна праводзіла ў Ашмянах шмат часу. Кажа, што сёння вельмі цёпла згадвае гэты гарадок.

– Дзядуля і бабуля працавалі ў Доме быту. Памятаю, як мы з бабуляй хадзілі на працу да дзеда. Я там збірала кавалачкі тканіны, якімі дзядуля абіваў мэблю. Несла іх дамоў і шыла адзенне для сваіх цацак.

Ашмяны – тое месца, якое я моцна адчуваю родным і якое натхняе мяне.

Фільм «Дачка» – дыпломная праца Мары, трагедыя 16-гадовай дзяўчыны і яе бацькі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «РГ» узнагародзілі за відэа і тэкст пра Базіната

**Вынікі традыцыйнага конкурсу Асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы падвялі 9 лістапада ў Мінску.**



Фота Андрэя ХРУЦКАГА.

Злева направа: Зоя Хруцкая, Таццяна Касьян, Ігар Палынскі.

Першае месца ў намінацыі «Адукацыя і культура» ўзяла **Зоя Хруцкая**. Найлепшым стала інтэрв'ю з мастаком з Маладзечна Базіната «Культура – гэта апошняе, пра што тут думаюць».

Карэспандэнт **Таццяна Касьян** і тэхнічны рэдактар **Ігар Палынскі** толькі летам далучыліся да каманды «Рэгіянальнай газеты». І ўжо атрымалі ўзнагароды – іх сумесны ролік сярод лідараў у намінацыі «Найлепшае відэа ў медыя».

Найлепшым выданнем сёлета стала «Брэсцкая газета».

У конкурсе ўдзельнічалі 82 журналісты і 12 выданняў.

«Рэгіянальная газета» ў гэтым конкурсе ніколі не застаецца без узнагарод. Двойчы, у 2017 і 2015 гадах, газета атрымлівала галоўны прыз – станавілася найлепшай рэгіянальнай газетай года.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота ukranews.com.

Першы чым нарыхтоўваць грыбы на зіму, спецыялісты раяць праверыць у іх узровень радыяцыі.

# У грыбах з Талуцці, Чарчонава і Хоўхлава знаходзяць цэзій

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

## Завяршаецца пара збору грыбоў.

Сёлета, на назіраннях грыбнікоў, лес не асабліва цешыць ураджаем. Але на прылаўках рынку і прылеглай да яго тэрыторыі яшчэ сустракаецца дарункі лесу. Гандляры прапануюць як сырыя грыбы, так і ўжо ў выглядзе гатовай прадукцыі. Марынаваныя грыбочкі, салянкі радуюць вока, часта не гарантуюць небяспеку тым, хто іх набывае.

### Такія небяспечныя курачкі

Сёлета спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі даследавалі на ўтрыманне радыенуклідаў цэзію-137 22 пробы грыбоў. Перавышэнне ўдзельнай актыўнасці цэзію ў 2,2 раза ўстанавілі ў адной пробе курачак з Талуцці, што ў Любанскім сельсавеце Вілейскага раёна. Астатнія пробы з Мядзельскага, Маладзечанскага раёнаў былі чыстымі, без перавышэння радыенуклідаў.

Па дадзеных лабараторыі ветэрынарнай санітарнай экспертызы рынку райспажыўтаварыства, за сезон выявілі перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў цэзію ў дзвюх пробах грыбоў: у курачках – у 6,7 раза, у змешаных грыбах – амаль у два разы. Небяспечныя курачкі збіралі каля вёскі Чарчонава Мясоцкага сельсавета Маладзечанскага раёна. Змешаныя грыбы прывезлі з Хоўхлава, што на Маладзечаншчыне.

### Не палянуйцеся праверыць

Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі рэкамендуюць, што перш чым нарыхтоўваць дзікарослую прадукцыю на зіму, не палянуецеся правесці радыяцыйны кантроль грыбоў у Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі або ў лабараторыі на рынку райспажыўтаварыства.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст**
**Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## Завод 1905 года трапіў у топ-10 выстаўленых на продаж дзяржаб'ектаў

МЯДЗЕЛ

На сайце Дзяржаўнага камітэта па маёмасці размешчаны пералік з 10 найбольш буйных і патэнцыяльна цікавых для прадстаўнікоў бізнесу аб'ектаў дзяржаўнай нерухомасці, выстаўленых на продаж.

Пералік сфарміраваны на аснове прапаноў органаў дзяржкіравання і мясцовых выканаўчых камітэтаў. У пераліку ёсць і будынак галоўнага корпуса Нарачанскага завода напояў у Мядзельскім раёне 1905 года пабудовы. Яго можна выкарыстоўваць у якасці аб'екта вытворча-складскога прызначэння.

**Паводле Дзяржкамітэта па маёмасці.**

## У Маладзечанскім раёне будуюць першы круглы дом

МАЛАДЗЕЧНА

Незвычайны дом павінны паўстаць на рацэ Удранка каля Радашкавічаў.

У доме круглыя сцены, а вокны заменяе вітражнае шкло. Каркас такога дома будаўнікі збіраюць нібы канструктар.

Праект атрымаў прызнанне нацыянальнага конкурсу архітэктуры.Таму аўтар задумкі вырашыў пабудаваць прататып і ўвачавідкі паказаць перавагі новай тэхналогіі домабудавання.

– Мы шукалі спосаб пабудаваць драўляны дом незвычайнай архітэктуры. Ён будзе вельмі энергакамфортны. Гэта значыць, не горача летам і не халадна зімой, – тлумачыць кіраўнік праекта **Канстанцін Урбаноўскі**.

Усе камунікацыі ўжо закладзеныя ў падмурак дома. Тэхналогія зборкі дэталяў каркаса дазваляе ствараць практычна любыя формы. Першы эксперыментальны круглы дом пабудуюць да пачатку новага года. А пасля кожны ахвотны зможа правесці тэст-драйв.

**Паводле CTV.BY.**

## У Ашмянах плануюць пабудаваць 60-кватэрны жылы дом

АШМЯНЫ

Новы жылы дом павінны з'явіцца на вуліцы Снядзецкага да жніўня 2019 года. Пра гэта паведамляе сайт Ашмянскага райвыканкама.

У доме будзе пяць паверхаў. Кватэры – на адзін, два і тры пакоі. Прадугледжаны пандусы, распавядаюць у райвыканкаме.

Дом паўстане на ўмовах долевага будаўніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

## Можа з'явіцца аўтобусны маршрут для людзей з інваліднасцю

ВІЛЕЙКА

Пра гэта ў рэдакцыю паведаміў жыхар Ільі, чалавек на вазку, **Віктар Філістовіч**.

Вілейскі райвыканкам разам з філіялам «Аўтобусны парк №5» абмяркоўваюць магчымасць увядзення аўтобуснага маршруту для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Калі вы зацікаўленыя ў такім маршруце, тэлефануйце: 8 (01771) 7-64-52, 8 (029) 777-24-18.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.11 | 15.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1211 | **2.1472** |
| Еўра | 2.4219 | **2.4250** |
| Злоты, 10 | 5.6104 | **5.6350** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2157 | **3.1620** |
| Грыўня, 100 | 7.5889 | **7.7140** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **6.11** | **14.11** |
| Еўра | 2.3900/2.4250 | **2.4000/2.4300** |
| Долар ЗША | 2.1000/2.1290 | **2.1400/2.1580** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **6.11** | **14.11** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,75 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,60** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,20 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 2,60 | **3,40** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,20 | **3,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,60 | **3,20** |
| Перац, 1 кг | 3,90 | **2,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | – | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Гранат, 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 1,50 | **–** |
| Ківі, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Хурма, 1 кг | 3,20 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,40 | **1,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | – | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Восем авечак з Літвы збеглі ў Беларусь

**АСТРАВЕЦ**

Памежнікі Швянчонскай заставы з дапамогай відэакамер зафіксавалі, як восем авечак з Літвы перайшлі мяжу і сышлі ў Беларусь, паведамляе Delfi.lt.

Дагэтуль памежнікі не раз назіралі, як мяжу пераходзяць дзікія жывёлы, але гэтым разам на відэа трапілі восем авечак. Тут па абодва бакі мяжы расце лес.

Высветлілася, што іх гаспадыня – пажылая жыхарка Швянчонскага раёна. Яна сказала памежнікам, што здароўе не дазваляе ёй клапаціцца пра жывёл, таму яна выпусціла авечак на волю. Літоўскія памежнікі паведамілі пра інцыдэнт беларускім калегам.

**Паводле DELFI.LT.**

## Віляйчанін скраў у знаёмай ювелірныя ўпрыгажэнні

**ВІЛЕЙКА**

Крымінальную справу ўзбудзілі 12 лістапада.

30-гадовы мужчына, жыхар Вілейкі, 25 кастрычніка каля дзевяці раніцы быў у доме ў сваёй знаёмай, 30-гадовай віляйчанкі.

Тут ён скраў ювелірныя ўпрыгажэнні. Шкода склала больш за 50 рублёў, распавялі ў РАУС Вілейкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Вілейшчыне невядомыя закідалі камянямі пасажырскі цягнік

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

Здарэнне адбылося ў суботу ўвечары на Вілейшчыне. За падобныя дзеянні прадугледжанае сур'ёзнае пакаранне.

Пра выпадак у Вілейскі РАУС паведамілі 10 лістапада каля шасці вечара. Машыніст цягніка «Мінск-Полацк» расказаў, што ў цягнік невядомыя кінулі некалькі камянёў. Высветлілася, што, праязджаючы прыпынак «Зеніт», у святле пражэктара машыніст заўважыў двух на выгляд падлеткаў недалёка ад чыгуначных пуцей. Пасля гэтага адразу пачуўся характэрны гук.

Камяні не трапілі ў вокны, таму сур'ёзных пашкоджанняў няма. Незапланаваных прыпынкаў не было.

Вілейскі РАУС праводзіць праверку. Міліцыя шукае фігурантаў. Па словах Кацярыны Млечкі, гаворка можа весціся нават пра крымінальную адказнасць.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Угнаў машыну і трапіў на ёй у аварыю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Машыну з завулка Горкага ў Маладзечне ўгнаў 18-гадовы жыхар вёскі Цюрлі 10 лістапада.

Хлопец скарыстаў тое, што аўтамабіль «Фіят» быў з уключаным рухавіком, ключ знаходзіўся ў замку запальвання.

Каля шасці раніцы фігурант сеў у машыну, што належала жыхару Маладзечна, і паехаў ад завулка Горкага да завулка Зялёнага, дзе трапіў у ДТЗ.

18-гадовага падазраванага затрымалі. 10 лістапада завялі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Здарыўся пажар на прадпрыемстве

**АШМЯНЫ**

11 лістапада каля 11 вечара здарыўся пажар у адміністрацыйным будынку Ашмянскага ўчастка Смаргонскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм «Гроднамеліяводгас».

Будынак знаходзіцца ў Ашмянах на вуліцы Піянерскай. Пажар знішчыў дах па ўсім будынку.

Прычыну высвятляюць.

**Паводле сайта МНС.**

## Пагражаў, забраў бутэльку піва і 15 рублёў

**ВАЛОЖЫН**

Жыхара Івянца абрабавалі проста на вуліцы ўвечары 3 лістапада.

Здарэнне адбылося, калі ўжо былі прыцемкі. Да 56-гадовага мясцовага жыхара прыстаў раней судзімы 36-гадовы мужчына, таксама мясцовы.

Пагрозамі і гвалтам ён адкрыта скраў у 56-гадовага бутэльку піва і 15 рублёў. Пацярпелы звярнуўся ў міліцыю. Падазраванага затрымалі. 8 лістапада завялі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фота забяспечанае Таццянай БЕЛАНОГ.

Трагедыя здарылася ў гэтым вагончыку.

# На Вілейшчыне зарэзалі 28-гадовага мужчыну

**ВІЛЕЙКА**

**Раніцай 11 лістапада ў Карпавічах на Вілейшчыне ў бытавым вагончыку знайшлі двух мужчын з нажавымі раненнямі.**

Смерць 28-гадовага мясцовага жыхара канстатавалі на месцы. 55-гадовага параненага мужчыну забралі ў рэанімацыю.

Як распавяла **Таццяна Беланог**, перад здарэннем мужчыны выпівалі ў бытавым вагончыку, які стаяў на тэрыторыі сваяка загінулага. Узнікла сварка, якая скончылася бойкай. Мужчыны пырнулі адзін аднаго нажом.

– У выніку 28-гадовы мужчына памёр. 55-гадовы цяпер у бальніцы, яго дапрошваюць, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.

Следчыя праводзяць праверку, гутарылі з мясцовымі жыхарамі, аглядалі месца здарэння. Завялі крымінальную справу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Два літоўцы напіліся і вырашылі парушыць мяжу, каб трапіць на магілу сваячкі

**АСТРАВЕЦ**

Здарэнне адбылося на Астравеччыне.

Двое нецвярозых грамадзян Літвы незаконна перайшлі праз мяжу з мэтай патрапіць на беларускія могілкі, паведамляе Дзяржпагранкамітэт.

Літоўскія памежнікі 7 лістапада паведамілі беларускім калегам пра магчымае парушэнне дзяржаўнай мяжы двума невядомымі людзьмі. Пагранічны нарад выйшаў для праверкі мясцовасці. Праз некалькі хвілін паблізу вёскі Дайноўка знайшлі і затрымалі двух грамадзян Літвы. Мужчыны аказаліся жыхарамі вёсак Шайкішкі і Кейпунай. Яны прызналіся, што пасля ўжывання спіртнога ім захацелася наведаць беларускія могілкі, дзе пахаваная іх сваячка.

Замежнікаў затрымалі. Ім пагражае штраф і дэпартацыя з забаронай уезду ў Беларусь тэрмінам да пяці гадоў.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

## Пры аказанні паслуг загінуў індывідуальны прадпрымальнік

**ВАЛОЖЫН**

Следчы камітэт праводзіць праверку смяротнага траўмавання 45-гадовага індывідуальнага прадпрымальніка з Мінска.

Няшчасны выпадак адбыўся 7 лістапада ў вёсцы Падневічы Валожынскага раёна.

Індывідуальны прадпрымальнік аказваў фізічнай асобе будаўнічыя паслугі. Ён залівваў падмурак пад плот. Адна з апор, якія ўтрымліваюць аўтабетонапомпу, развалілася і ўвайшла ў грунт. У выніку стралой для падачы бетону, усталяванай на МАЗе, прыціснула індывідуальнага прадпрымальніка. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў 45-гадовы жыхар Мінска памёр на месцы.

Следча-аператыўная група неадкладна агледзела месца здарэння, апытала відавочцаў, канфіскавала дакументы, якія тычацца дзейнасці.

Будаўнічыя паслугі прадпрымальнікам аказваліся па вуснай дамоўленасці.

Для ўстанаўлення прычыны смерці і іншых абставінаў прызначылі экспертызы.

Па выніках праверкі прымуць працэсуальнае рашэнне.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Лепшы дыспетчар падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Міншчыны працуе ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Мінскім абласным упраўленні МНС узнагародзілі пераможцаў конкурсу «Лепшы дыспетчар падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Мінскай вобласці».

Пераможцам стаў старшы прапаршчык унутранай службы **Мікалай Таўкач**, дыспетчар ЦАК Маладзечанскага ГРАНС. На пасадзе Мікалай ужо 17 гадоў.

У ГРАНС прыйшоў пасля службы ў войску. Як лічыць Мікалай, дыспетчар заўсёды павінны быць «з халоднай галавой», максімальна сабраны і падрыхтаваны.

– Дыспетчар знаходзіцца ў самым сэрцы падзей, з'яўляецца «вачыма і вушамі» падраздзяленняў, якія ўжо ідуць да месца здарэння, і пры гэтым застаецца на сувязі з тым, хто цяпер знаходзіцца ў небяспецы, – кажа пераможца конкурсу. – Чалавек па той бок тэлефона павінны быць упэўнены, што дапамога ўжо блізка, ён не адзін. Бо ў любой пазаштатнай сітуацыі людзі, як правіла, адразу пачынаюць панікаваць. Часам, менавіта гэта перашкаджае ўспомніць нават тэлефон службы выратавання. Мікалай ужо ў чацвёрты раз перамагае ў абласным конкурсе. Прадстаўнік Маладзечанскага гарраймаддзела прадставіць сталічны рэгіён на рэспубліканскім конкурсе.

**Паволе сайта МНС.**

# У лесе пад Маладзечнам леснікі сустрэлі норку-альбіноса


Фота Яна ЛАГВІНОВІЧА

Норка-альбінос у маладзечанскім лесе.

## Мілы звярок ідзе да рук.

Маладзечанец **Ян Лагвіновіч** выклаў пост у фэйсбуку пра тое, што, магчыма, хтосьці захоча завесці сабе не зусім звычайнага дамашняга гадаванца.

«Пра тое, што ў лесе пад Маладзечнам работнікі лясгаса сустрэлі белую норку-альбіноса, распавёў мне мой айчым. Яны працуюць на дзялянцы лесу і штодзень, з аднаго і таго ж месца, выходзіць норка. Леснікі нават сталі насіць ёй свае ссабойкі».

Ян Лагвіновіч па першай прафесіі – ляснік. Ён зрабіў выснову, што норка – гэта чыйсьці былы дамашні гадаванец.

«Ведаеце, як бывае, нагуляліся і выкінулі ў лес. Норка – драпежнік, а гэта сама ідзе да людзей. Дазваляе сябе гладзіць, есці з рук».

Чаму Ян сам не ўзяў норку сабе? У яго дома, кажа ён, жывуць два каты, а з катамі норку не трымаюць. Хоць у норкі павінна быць свая клетка, але драпежніка трэба выпускаць пагуляць.

Тэлефон Яна Лагвіновіча **(8-044) 479-14-71.**

«Зімой яна ў лесе наўрад ці выжыве», – перажывае Ян Лагвіновіч.

Хай бы хто ўзяў сабе незвычайнага сябра.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Астраўцы з'явіліся «Рукі атама»

## Да юбілею горада паўстаў яшчэ адзін памятны падарунак.

Скульптура адзначае адметнасць райцэнтра. Месца для яе размешчанае на галоўным уездзе з боку Белькішак, у першым мікрараёне. Тут жа размешчаны інфармацыйны цэнтр АЭС.

Мірны атам у руках – сімвал, які адразу адзначае, што гэта горад энергетыкаў.

**Паводле «Астравецкай праўды».**




## Якія выхадныя чакаюць беларусаў у снежні

Пераносы рабочых дзён рэгулюе Пастанова Савета Міністраў ад 27 лістапада мінулага года.

Паводле яе, рабочыя дні ў сёлетнім снежні пераносяцца наступным чынам:

- **з панядзелка, 24 снежня, – на суботу, 22 снежня;**
- **з панядзелка, 31 снежня, – на суботу, 29 снежня.**

Каляды 25 снежня прыпадаюць на аўторак. Таму выхадных будуць тры дні – нядзеля, панядзелак і аўторак, 23, 24 і 25 снежня.

Графік рабочых і выхадных дзён на 2019 год пакуль афіцыйна не ўсталяваны.

Арганізацыі маюць права пераносіць рабочыя дні ў адпаведнасці з заканадаўствам па сваіх патрэбах, улічваючы спецыфіку вытворчасці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Валожынцы 16 лістапада змогуць звярнуцца да намесніка пракурора вобласці

**ВАЛОЖЫН**

У Валожыне 16 лістапада правядзе прыём грамадзян намеснік пракурора Мінскай вобласці старшы саветнік юстыцыі **Аляксандр Бяліцкі**.

Прыём пройдзе ад 14:00 да 16:00 у будынку раённай пракуратуры (Савецкая, 60).

Пракурор Валожынскага раёна **Юры Канапацкі** распавёў карэспандэнту МЛЫН.BY:

– Жыхары горада і раёна могуць звяртацца да Аляксандра Бяліцкага з любымі пытаннямі па крымінальна-правовым, адміністрацыйным, жыллёвым, працоўным, зямельным заканадаўстве. Можна расказаць пра свае праблемы, якія звязаныя з прыцягненнем да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці, паскардзіцца на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі або Следчага камітэта. Не застануцца без увагі пытанні, звязаныя з праблемай карупцыі.

Па словах Юрыя Канапацкага, запісацца да яго на прыём можна да чацвярга, 15 лістапада, да 18:00 па тэлефоне 8 (01772) 5-75-82.

Пры гэтым намеснік пракурора вобласці падкрэсліў, што прыме ўсіх, незалежна ад таго, запісаўся чалавек загадзя ці не.

**Паводле МЛЫН.BY.**

## Маладзечанская мастацкая школа адзначыць сорак год

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта нам паведаміла выкладчыца школы **Наталля Трус**.

Да юбілейнай даты школа зладзіць шэраг выстаў.

16 лістапада ў 16:00 у Мінскім абласным краязнаўчым музеі правядуць выставу вучняў мастацкай школы «У краіне дзяцінства» і святочную імпрэзу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад 15 лістапада да 20 снежня забараняюць лавіць рапушку

У Беларусі жыве 59 відаў рыб. Шмат з іх сустракаецца ў Мядзельскім раёне. Да адных з самых цікавых і своеасаблівых відаў належыць рапушка еўрапейская.

Рапушка з'яўляецца абарыгенным відам – гэта значыць, карэнны насельнік мясцовасці. У Мядзельскім раёне яна сустракаецца ў азёрах Нарач і Мядзельскае. Асаблівасць рапушкі – яе нераст позняй восенню, які пачынаецца пры тэмпературы вады 2-3 градусы.

Ікра адкладаецца проста на грунт і нічым не закрываецца, для яе развіцця трэба шмат кіслароду. Гэтыя асаблівасці – крытычныя для рапушкі, бо ўвесь час існуе небяспека, што ікра апынецца ў глеі ці яе праглынуць іншыя рыбы.

Толькі ў красавіку-маі з ікры з'яўляюцца лічынкі, якія таксама доўгі час застаюцца малярухомымі і інтэнсіўна знішчаюцца рознымі ворагамі.

Прымаюць меры па захаванні гэтага віду. Адна з іх – абмежаванне тэрмінаў лоўлі рапушкі ў перыяд яе нерасту, ад 15 лістапада да 20 снежня.

Здабыча рапушкі ў перыяд забароны, у залежнасці ад памеру нанесенай шкоды навакольнаму асяроддзю, можа паслужыць падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай альбо крымінальнай адказнасці. Акрамя таго, парушальніку давядзецца пакрыць шкоду. Кожная незаконна здабытая ў перыяд забароны рапушка будзе каштаваць 220,5 рубля.

Мядзельскай міжраённай інспекцыяй, сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі пастаянна праводзяцца мерапрыемствы па выяўленні фактаў браканьерства. Але толькі сумеснымі намаганнямі можна павялічыць рыбныя запасы ў нашых рэках і азёрах.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце на нумар **(8-01797) 50-7-40** альбо на «тэлефон давер у» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **(8-017) 39-00000**, або на тэлефон **102**. Усю інфармацыю ў абавязковым парадку правераць.

**Вячаслаў МІНЯНКОЎ, старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## За тое, што падняў тушу казулі, пагражае да трох год турмы

**СМАРГОНЬ**

Жыхар Смаргоні звёз з месца аварыі збітую казулю. За гэта яму пагражае крымінальная адказнасць.

Пра здарэнне паведаміў намеснік начальніка Гродзенскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Аляксандр Зінчанка**.

Непадалёк ад Крэва пад машыну трапіла казуля. Відавочцы распавялі, што апынуўся на месцы аварыі невядомы мужчына, падабраў казулю, загрузіў у багажнік «Пежо» і ўцёк.

«Гэта быў 52-гадовы жыхар Смаргоні. Яго машыну знайшлі ў адным з двароў вёскі Вугляны Смаргонскага раёна. Падчас агляду двара і гаспадарчых пабудоў знайшлі часткі разабранай тушы казулі», – сказаў Аляксандр Зінчанка.

На месца выклікалі следча-аператыўную групу Смаргонскага РАУС. Матэрыялы перададзены ў Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта. Калі віна парушальніка будзе даказаная, яму пагражае крымінальная адказнасць аж да позбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў.

У Гродзенскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвалі, што калі знайшлі на дарогах параненых, хворых ці загінулых дзікіх жывёл, забаронена іх перамяшчаць, выкарыстоўваць шкуру, мяса або рогі. Правільны алгарытм дзеянняў у гэтым выпадку такі: як мага хутчэй паведаміць карыстальніку паляўнічых угоддзяў або ў дзяжурныя службы міліцыі і МНС.

**Паводле БелТА.**





* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**


**Кацярыне Аляксандраўне КАМІНСКАЙ з аграгарадка Шылавічы**

**З 80-годдзем!**

В такой прекрасный юбилей
Желаем много светлых дней,
Желаем радости, покоя,
Здоровья крепкого вдвойне,
Желаем самого простого –
Прожить подольше на земле.

**Дуся, Ліля.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в., 1,8 бензін. У добрым стане. Т. (8-029) 5689198.*

• ФВ-Транспарцёр Т2, 1991 г.в., 1,6Д, МКПП, белы, 3000 руб., торг. Т. (8-029) 5214932.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Колы з дыскамі Аўдзі А-6 R16 205*205 зіма, 4 шт., каўпакі, дыскі R 13, Опель, 4 шт. Т. (8-029) 7700689.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Шылавічах. Т. (8-029) 1358806.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5112463.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Віленскай, 31; агульная 48,7; жылая 28,4; с/в раздзельны; 3 паверх цаглянага дома. Т. (8-029) 8165933.

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• Гараж у ГБК-2 Вілейка. Т. (8-044) 5395697.

• Дом у Маладзечне, вул. Велікасельская, 6х12 м, 0,10 га з гаспадарчымі пабудовамі. Газ, вада, тэлефон, склеп. Газавае ацяпленне, цвёрдае паліва. Т. МТС (8-033) 6393440.*

• Катэдж жылы ў а.г. Выверы, 4 км ад Маладзечна, 100% гатоўнасці, 114,1/31,7/42,4 кв. м, участак 0,19 га, гараж, усе камунікацыі, тэлефон, оптавалакно. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-044) 5463157.*

### ІНШАЕ

• Гандлёвы павільён на гарадскім рынку ў Вілейцы плошчай 25 кв. м. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібраплата 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Гарбыль, пілавінне з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Мяккі куток (канапа+2 крэслы) б/у, 300 рублёў, можна на дачу. Т. Вэлком (8-044) 5464797.

**Музінструмент**

• Піяніна чорнае, у добрым стане. Т. (8-029 )8616784.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы дойныя. Смаргонскі раён. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5092609, (8-029) 7059552.*

• Парасяты в'етнамскія 40 рублёў, свіні. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

**Іншае**

• Даільны апарат. Т. (8-033) 6368364.*

• Дублёнка моладзевая і паліто 42 памеру. Модныя. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3017983.

• Шкуркі лісы, янота, норкі. Т. (8-029) 8552646.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

• **КАБАНА, СВІННЮ. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.***

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Літаратуру гістарычную аб Украіне на ўкраінскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

• Ціскі. Т. (8-029) 2375721.*

**ІНШАЕ**

• Ёсць прапіска. Т. МТС (8-029) 5606607, Вэлком (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Маляры, плітачнікі-абліцоўшчыкі. Тэрмінова. ТДА «Мадзія» УНП 600566883. Т. (8-0176) 763741, (8-025) 6025521, (8-029) 5674381.*

• Санітарка ў Дом для састарэлых у Вілейскім раёне. Т. Лайф (8-025) 7301698.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.



«Рэгіянальная газета» шукае
рэкламнага агента
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівія і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.

Рэклама ў «РГ»
8 (0176) 53-78-04
reklama@rh.by



ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады.
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04 (тэл./факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47.
E-mail: reklama@rh.by.

# Паспейце прагаласаваць за найлепшае фота

## Заканчваецца галасаванне акцыі «Не губляй ніводнага дня»

**Сёлета ў акцыі «Рэгіянальнай газеты» ўдзельнічае 19 чалавек. Галасаванне будзе працаваць на нашым сайце rh.by да раніцы 19 лістапада.**

На здымках удзельнікаў акцыі – сваякі і блізкія, прырода, прыемныя моманты. Няхай 2018 год запомніцца ўдзельнікам такімі яркімі ўспамінамі.

Той удзельнік, чыё фотаназбірае найбольш галасоў, атрымае адзін з падарункаў. Пераможцаў у астатніх намінацыях абірае калектыў «Рэгіянальнай газеты» на закрытым пасяджэнні.

**Вынікі мы абвесцім на нашым сайце 19 лістапада.**

Тое фота, якое абярэ рэдакцыя, стане пераможцам акцыі. Яно ўпрыгожыць фірменны каляндар «РГ» на 2019 год. Асобна мы ўзнагародзім аўтара фота, якое ідэйна звязанае з «Рэгіянальнай газетай».

Фотаздымкі, дасланыя на акцыю, мы будзем друкаваць і ў папяровай газеце. Некалькі здымкаў пакажам у гэтым нумары.

**Не губляйце апошні шанец далучыцца да нашай іншай акцыі – «Супергаспадар».**

Калі ў вас добра ўрадзіла на агародзе, выраслі прыгожыя кветкі, вы нарабілі шмат закатак, змайстравалі шафу або зрабілі выдатны рамонт ці нават напяклі самых смачных пірагоў – дасылайце фота нам! Раскажыце пра сваё дасягненне, падзяліцеся рэцэптам.

Апошні дзень, калі мы прымаем фота, – 19 лістапада ўключна. Дасылайце фота з апісаннем на пошту regionnews@rh.by. У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Супергаспадар».

**Аддзел інфармацыі.**



Удзельнік №1 Юры Горыд з Астраўца. Неверагодная восень у аб'ектыве фотамайстра.




Удзельніца №2 Вольга Шакута з Мінска даслала фота, поўнае замілавання. На здымку – закаханыя, якія хутка аб'яднаюць свае сэрцы.



Удзельнік №3 Ганна Яковіч з Маладзечна даслала фота сёлетняй каляровай і цёплай восені. Восень – час, які дае нам магчымасць паглядзець навокал іншымі вачыма, а яркія фарбы падштурхоўваюць ацаніць прыгажосць і тое, наколькі важна не губляцца ў гарадской мітусні, а пранікнуць у свет прыроды, лічыць Ганна.



Удзельнік №4 акцыі Таццяна Сафонава з Маладзечна даслала здымак маленькага Мірона і яго бацькоў.



Удзельнік №5 – Таццяна Банковіч. Яна даслала фота са сваёй дачкой Віялетай. Дзяўчынка даўно марыла палятаць на верталёце, і сёлета мара, нарэшце, здзейснілася. Для таго, каб лятаць, неабавязкова мець крылы, перакананая мама Віялеты.



Настаўнік біялогіі Віталь Васільеў і яго вучаніца з ваенна-патрыятычнага класа Алеся Кандрукевіч у пошуках найбольш экалагічнага сродку захавання бульбы.

# Як захаваць бульбу, не нашкодзіўшы здароўю і экалогіі

## Маладзечанка са сваёй працай па біялогіі заняла другое месца на абласным конкурсе даследчыкаў

**На стале ў лабаранцкай кабінета біялогіі – колбы, мікраскоп і безліч маленькіх слоікаў з невядомымі вадкасцямі. Тут працуюць настаўнік біялогіі Віталь Васільеў і яго вучаніца, адзінаццацікласніца маладзечанскай сярэдняй школы №14 Алеся Кандрукевіч.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Што такое фенолы і дзе яны хаваюцца

Настаўнік з вучаніцай доўга працавалі нездарма. На абласным конкурсе юных даследчыкаў, што ладзіў Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі, даследаванне Алесі заняло другое месца.

– Некалькі год таму я заўважыў, што любы даклад ці рэферат Алеся рабіла як сур'ёзную навуковую працу. Яна заўсёды захапляла сваім выступленнем клас, гэта значыць, умее трымаць аўдыторыю, – распавядае пра сваю вучаніцу настаўнік біялогіі.

Таму ў пачатку дзясятага класа Віталь Аляксандравіч і прапанаваў Алесі заняцца навуковай дзейнасцю. Тэму выбралі наступную «Фенольныя злучэнні раслін як сродак павелічэння тэрміну захоўвання бульбы».

Калі сказаць прасцей, настаўнік з вучаніцай пры дапамозе доследаў высвятлялі, з дапамогай якіх раслін можна экалагічна і як мага даўжэй захоўваць бульбу. А фенолы – гэта рэчывы, якія ёсць у многіх раслінах.

Яны засцерагаюць ад шкоднікаў. У чыстым выглядзе фенол – таксічны. Калі ж ён у складзе раслін, то можа прынесці шмат карысці.

### Маладзечанка змагла пераканаць журы

Перад выступленнем хвалявалася крыху, кажа Алеся. А потым нават спадабалася. Пасля абароны працы задавалі шмат пытанняў і ўдзельнікі, і сябры журы, большасць з якіх – прафесары сталічных універсітэтаў. Пыталіся пра тое, як праводзіла доследы, як доўга настойвала спіртавыя і водныя экстракты. Экстракты Алеся настойвала дзесяць дзён. Адвары – 15 хвілін.

Нехта з прадстаўнікоў журы засумняваўся, ці можа за 15 хвілін у адвары лісця брусніцаў выдзеліцца фенол. Аднак даследчыца з Маладзечна пераканала, што можа. А раней, на занальным этапе ў Вілейцы, дзяўчына прадэманстравала гэта на практыцы.

– Я рада, што было шмат пытанняў – дзеліцца даследчыца. – Калі людзі пыталіся, значыць, мая праца іх зацікавіла.

### З канкурэнтамі пасябравалі

Па словах Алесі і яе кіраўніка, сапернікі ў секцыі «біялогія» былі дасведчаныя, добра падрыхтаваныя. Таму тым больш прыемна, што яе працу так высока адзначылі. З некаторымі канкурэнтамі склаліся прыязныя адносіны. Цяпер дзяўчына кантактуе з імі праз сацыяльныя сеткі. Кажа, што размаўляюць на розныя тэмы. Не толькі пра біялогію.

### Што дае ўдзел у такіх конкурсах вучням і педагогам?

– Саморазвіццё, уменне выступаць перад публікай, павышэнне ведаў па школьных прадметах, – адказвае Алеся. – Часта тэмы, з якімі я сутыкаюся ў даследаваннях, мы праходзім па хіміі, біялогіі. Мне гэта асабліва трэба, бо хачу стаць доктарам.

Віталь Аляксандравіч перакананы, што і яму як педагогу, шмат дае даследчая дзейнасць і ўдзел у конкурсах. Гэта карысны досвед, ідэі для далейшых навуковых прац, зносіны з калегамі з усёй Міншчыны. Заўсёды звяртаю ўвагу на тое, якія тэмы цяпер актуальныя ў біялогіі, якія працы перамагаюць, што можна было б лепш зрабіць нам, каб праз год зноў паказаць добры вынік, кажа настаўнік.

### Хімічным сродкам – не!

Сваё даследаванне Алеся лічыць вельмі актуальным. Беларусь здаўна лічыцца «бульбяной» краінай, кажа дзяўчына. Аднак, каб захаваць вялікія ўраджаі бульбы, часцей за ўсё карыстаюцца хімічнымі сродкамі, што нядобра ўплывае на здароўе чалавека, на экалогію. У сваім даследаванні я кажу пра тое, што захаваць бульбу можна без хіміі, а пры дапамозе звычайных раслін.

Цэлы год, нават на канікулах, Алеся і яе настаўнік працавалі з рознымі раслінамі. Даследавалі лісце брусніцаў, талакнянку, лісты бадану, лупіны ад цыбулі. Рабілі з іх спіртавыя і водныя экстракты і адвары. Неабходныя зёлкі набывалі ў аптэцы.

Пасля назіралі, як паводзіла сябе бульба пасля апрацоўкі тым ці іншым экстрактам або адварам. Адзначалі, ці дастаткова цвёрдыя клубні, ці запавольваецца на іх з'яўленне парасткаў.

### Раскрываем бульбяны сакрэт

А цяпер – увага! Алеся са сваім настаўнікам раскрываюць галоўны бульбяны сакрэт. Што ж рабіць, каб ваша бульба найлепш захавалася да новага ўраджаю без небяспечных хімічных рэчываў?

**Пасля таго, як бульба выкапаная, трэба апырскаць яе астылым адварам з лісця брусніцаў. Менавіта гэта расліна найбольш эфектыўна паказала сябе ў доследах юнай даследчыцы.**

Потым трэба пачакаць, каб бульба добра прасохла, і скласці яе ў месца для захоўвання.

Сёлетні ўраджай бульбы ў сям'і Алесі захоўваюць менавіта так.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# А вы ведаеце, як з’ездзіць у Еўропу за сорак еўра?

## У Маладзечне зладзілі мерапрыемствы праекта моладзевага абмену Еўрапейскай камісіі Erasmus+

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 1 да 9 лістапада ў Маладзечне гасцявалі маладыя людзі з Расіі, Азербайджана, Італіі, Эстоніі. Моладзь прыехала ў горад у рамках праекта моладзевага абмену Еўрапейскай камісіі Erasmus+.**



Фотаздымкі прадастаўлены Алесяй КАРОЛІК.

Наведалі Мінск.



Гульні, якія дазваляюць бліжэй пазнаёміцца.



Падчас адной са шматлікіх творчых імпрэз.

Праект дзейнічае некалькі год. Яго сутнасць – у наладжванні зносін паміж маладымі людзьмі з розных краін, у іх самаразвіцці. Мерапрыемствы ладзяць у розных краінах. Дзякуючы праекту маладзечанцы ўжо пабывалі ў Бельгіі, Люксембургу.

### Алеся Каролік: Цяпер мы ведаем, што такое азербайджанскі рэп

– Кожны раз выбіраецца нейкая асобная тэма для такіх міжнародных сустрэч. І цэлы тыдзень прысвячаецца ёй. Напрыклад, былі тэмы: правілы дарожнага руху, казкі, пажарная бяспека. У канцы ўдзельнікі рыхтуюць які-небудзь вынік – напрыклад, відэаролік, – расказала выкладчыца музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага ўдзельніца праекта **Алеся Каролік**.

У Маладзечне ў першы тыдзень лістапада 42 чалавекі з розных краін размаўлялі і ладзілі мерапрыемствы на тэму музыкі. Таму цяпер мы ведаем і азербайджанскі рэп, і сучасныя эстонскія гурты, адзначыла Алеся.

### Каштавалі азербайджанскія і эстонскія ласункі

Падчас тыдня ў Маладзечне ўдзельнікі праекта, сярод якіх студэнты, музыканты, выкладчыкі і беспрацоўныя, прадстаўлялі свае краіны. Рабілі гэта з дапамогай музыкі, танцаў, тэатральных пастановак. Абавязковая ўмова – расповед пра нацыянальную кухню. Можна было пакаштаваць і азербайджанскае печыва, і эстонскі шакалад.

Гаспадарам-маладзечанцам паказаць сваю культуру было крыху лягчэй. На дапамогу заўсёды прыходзіць этнаграфічны клуб **«КОЛА»**.

### Замежнікаў здзіўляюць суровыя памежнікі і шырокія вуліцы

Маладыя людзі наведалі Мінск. Завіталі ў музей тэатральнай і музычнай культуры, дзе мелі магчымасць пайграць на беларускіх народных інструментах. Замежнікі ўпершыню пабачылі беларускую батлейку.

Па традыцыі завіталі ў Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Мінску. У размовах з кіраўніцтвам прыйшлі да таго, што праекта, які б вось так аб’ядноўваў шмат моладзі розных краін, напэўна, больш і няма.

А яшчэ, нягледзячы на халоднае лістападаўскае надвор’е, удзельнікі зладзілі танцавальны флэшмоб у гарадскім парку ў Маладзечне.

Па словах Алесі Каролік, замежную моладзь здзіўляюць суровыя беларускія памежнікі, якія вельмі пільна даглядаюць кожнага, а таксама нашы шырокія вуліцы. Такія не характэрныя для заходнееўрапейскіх краін.

### Мову ведалі не вельмі, але паразумеліся

Як вырашалі моўнае пытанне? Афіцыйная мова праекта – англійская. Аднак не ўсе валодалі ёй на дастатковым узроўні. Таму выкарыстоўвалі ўсе магчымыя сродкі: ад жэстаў да гугл-перакладчыка. Як ні дзіўна, усе адзін аднаго разумелі.

**Гаварылі пра тое, што на наступны год у Маладзечне, магчыма, з’явіцца моладзевы цэнтр, якія ўжо ёсць у некаторых краінах. Маладыя людзі змогуць там збірацца, гуляць у настольныя гульні, ладзіць мерапрыемствы.**

### А трэба проста звярнуцца ў музкаледж

Як расказала Алеся Каролік, паўдзельнічаць у праекце можа кожны ахвотны. Адзіная ўмова – узрост: ад 16 да 30 гадоў. Калі мерапрыемствы праекта адбываюцца ў Беларусі, то не трэба ніякіх фінансавых укладанняў. Калі за мяжой, то ўдзельнікі за ўласны кошт набываюць білеты. Пасля арганізатары вяртаюць ім грошы. І як унёсак удзельніка пакідаюць сабе сорак еўра.

– Атрымліваецца, што за сорак еўра можна паездзіць па свеце, пазнаёміцца з аднагодкамі з розных краін, падцягнуць веданне замежных моў, – кажа Алеся.

Праўда, ведаюць пра такую магчымасць нешматлікія людзі ў Маладзечне. Перш за ўсё, гэта навучэнцы і выкладчыкі музычнага каледжа, а таксама людзі, што дапамагаюць ладзіць мерапрыемствы праекта. Напрыклад, удзельнікі этнаграфічнага клуба **«КОЛА»**.

А трэба ўсяго толькі звярнуцца ў музычны каледж да кіраўніка праекта ў Маладзечне выкладчыка **Руслана Апановіча** або да Алесі Каролік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Віляйчанка знайшла ў хляве фотаздымкі і газету, якім больш за сто гадоў

ВІЛЕЙКА

**Жыхарка Вілейкі Аляксандра Узгорак днямі вырашыла знесці стары хлеў на ўласным падворку. Сярод смецця жанчыну чакала знаходка, якой больш за сто год.**



Знойдзеныя фотаздымкі.




Адваротны бок здымкаў.



Газета «Рускае слова» 1916 года.

Гэта два фотаздымкі і нумар газеты «Русское слово».

– Дом на Маркава, каля бальніцы, каля пяці год таму набыла мая свякроў, – кажа Аляксандра.

### У пачатку мінулага стагоддзя сям'ю здымаў вядомы літоўскі фатограф

На фотаздымках – сям'я з дзецьмі. На іх адваротным баку стаіць подпіс «Юрашайтис» і горад Вільня. Паводле інтэрнэт-крыніц, Аляксандр Юрашайціс – літоўскі фатограф. Гады жыцця – 1859–1915. У юнацтве апынуўся ў Гродзенскай вобласці. Тут навучыўся друкаваць фотаздымкі. Атрымаў дазвол фатаграфаваць у Белавежскай пушчы паляванне знакамітых асоб на зубра.

У 1912 годзе фатограф з сям'ёй пераехаў у Вільню. Праз год набыў фотамайстэрню. Тут і былі зробленыя фотаздымкі, якія нядаўна знайшла Аляксандра. Менавіта майстэрня на рагу Георгіеўскай і Татарскай вуліц у Вільні, пазначаная на здымку.

Аляксандра пагартала Дамавую кнігу і высветліла, хто жыў у гэтым доме на Маркава.

Ад 1912 года гаспадыняй была **Марыя Васільеўна Баслык**, ураджэнка вёскі Клыні Вілейскага раёна. Ад 1937 года – ужо новая гаспадыня, але з тым самым прозвішчам – **Надзея Мікалаеўна Баслык**, ураджэнка Вілейкі.

Магчыма, на фотаздымках якраз Марыя Баслык са сваёй дачкой.

### Газетныя старонкі стогадовай даўніны

Газета «Русское слово», знойдзеная ў вілейскім хляве, выдавалася ў Расійскай Імперыі ад канца 19 стагоддзя да 1917 года. Па падзеях, якія там асвятляюцца, можна вызначыць год выдання – 1916.

Напрыклад, пахаванне генерала Мамантава, асветленае на адной са старонак, адбылося ў верасні 1916 года.

Калі вам нешта вядома пры тых людзях, якія на фота, паведаміце, калі ласка, у рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты».

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі забяспечыла Аляксандра УЗГОРАК.**

# Як у Крэве спраўлялі вяселле. Маладая на дзяжы

СМАРГОНЬ

У другой палове XIX стагоддзя ў Крэве яшчэ існавала мноства абрадаў і звычаяў, якія захаваліся са старажытных часоў.

Пра гэта сведчыць тагачасны святар крэўскай Свята-Аляксандра-Неўскай царквы **Дамецій Плаўскі** ў сваім гісторыка-этнаграфічным нарысе «Мястэчка Крэва». Спынімся на традыцыях шлюбу.

Шлюб – гэта адна з важнейшых вехаў у жыцці чалавека, таму і маладыя, і бацькі, і госці імкнуліся выканаць у ходзе яго ўсе няпісаныя правілы.

Напярэдадні вяселля нявеста вымушаная была быць выключна ветлівай, каб яе хто «не ўрок, ці не пашкодзіў, ці не зрабіў чаго». У час вянчання ўсе сачылі за свечкамі: калі хоць адна з іх гасла, гэта лічылася дрэнным прыкметай.

Пасля госці ішлі ці ехалі ў дом бацькоў маладой. За сталом маладым давалася толькі адна лыжка, і яны карысталіся ёй па чарзе.

Вяселле доўжылася два, тры, а то і чатыры дні. Пасля маладыя з гасцямі, забраўшы пасаг нявесты, ад'язджалі з песнямі і жартамі ў дом жаніха.

Калі картэж набліжаўся да дома, на варотах ставілі гаршкі з попелам. І як толькі павозкі пачыналі ўязджаць у падворак, гэтыя гаршкі разбівалі каламі. Ад стукату і пылу коні несліся па вуліцы, што весяліла гасцей. Забава паўтаралася некалькі разоў. Плаўскі выказвае думку, што дадзеная традыцыя паходзіць са старажытных часоў, калі гаршкі, напоўненыя попелам, атаясамліваліся з урнамі для праху, а іх біццё сімвалізавала наступнае: «Прэч ад нас тло і смутак, мы хочам жыць і радавацца!»

Ля ўвахода ў дом шафер падаваў маладой лапату і памяло – прылады, якія прымяняліся пры выпечцы хлеба, затым – іншыя рэчы з хатняй гаспадаркі. Пры гэтым маладая павінна была накрываць кожную рэч ці кавалкам палатна, ці хусткай. Пасля яе вялі ў хлеў паказваць скаціну, маладая і яе мусіла накрываць. Акрамя ўсяго іншага, нявеста павінна была мець падарункі для блізкіх сваякоў жаніха. Багацейшыя дарылі палатно, паясы, хусткі, грошы; бяднейшыя – крэндзелі, арэхі, дробныя грошы.

Існаваў у нашай мясцовасці звычай саджаць нявесту перад шлюбам на перавернутую ўверх дном дзяжу. Дзяўчына добрых паводзін смела і спакойна садзілася на яе, пасля чаго дзяўчыну віншавалі.

Калі ж за нявестай меліся грахі – яна не асмельвалася рабіць гэтага; тады з яе кпілі, жаніх быў незадаволены, і вяселле магло парушыцца. Калі такая нявеста ўсё ж ішла да шлюбу, то пасля яго за сталом на куце клалі парваны хамут, а маладой у час абеду давалі вышчарбленую лыжку.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**

● КАЛЯНДАР

**16 ЛІСТАПАДА**

**1888.** 130 гадоў з дня нараджэння **Вінцэнта Гадлеўскага**, рымска-каталіцкага святара, беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, аднаго з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага супраціўлення ў гады Другой сусветнай вайны, публіцыста. У ноч на 24 снежня 1942 года быў арыштаваны нямецкай паліцыяй. За адмову ад супрацоўніцтва неўзабаве быў закатаваны ў Трасцянцы.

**17 ЛІСТАПАДА**

**1893.** 125 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Езавітава**, беларускага палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча, публіцыста, перакладчыка, педагога. У Другую сусветную займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. На Другім Усебеларускім кангрэсе быў абраны ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады, у 1945 годзе займаў пасаду ваеннага міністра ва ўрадзе БЦР. Затрыманы СМЕРШам у красавіку 1945 года. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946, па іншых звестках расстраляны. Ён меў багаты кнігазбор, падрыхтаваў да друку невядомыя раней творы Максіма Багдановіча.

**18 ЛІСТАПАДА**

**1883.** 135 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Лёсіка**, беларускага нацыянальнага і палітычнага дзеяча, пісьменніка, публіцыста, мовазнаўца, педагога. Акадэмік АН БССР. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Арыштаваны 25 чэрвеня 1938 года па справе «Контррэвалюцыйнай арганізацыі палітссыльных у Саратаве». 31 сакавіка 1940-га на спецыяльным пасяджэнні НКВД быў прыгавораны да пяці гадоў ГУЛАГу. Памёр на наступны дзень у Саратаўскай турме, паводле афіцыйнай версіі – ад сухотаў. Паводле іншай крыніцы, быў застрэлены адразу пасля абвяшчэння прысуду.

**19 ЛІСТАПАДА**

**1996.** Са станцыі Яцукі (Дзятлаўскі раён) адпраўлены эшалон з апошняй ракетай «Тополь». Беларусь стала бяз'ядзернай дзяржавай.

**20 ЛІСТАПАДА**

**120 гадоў** з дня нараджэння **Міхася Клімковіча** (1899–1954), беларускага пісьменніка, крытыка, аўтара тэкста Дзяржаўнага гімна БССР.

**1948.** 70 гадоў з дня нараджэння **Яўгеніі Янішчыц**, беларускай паэткі. Памерла 25 лістапада 1988 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Васіль Грынь зладзіў свята Капыцікі

ВАЛОЖЫН

**Гаспадар сядзібы «Засценак Скрыплеў» зладзіў 10 лістапада традыцыйную для гэтых мясцін імпрэзу. Нават бабулі, якім поўным ходам ідзе дзявяты дзясятак, не разыходзіліся да трох ночы.**



Гатуюць юшку і шурпу.

На гэта свята сабраліся суседзі Грыня, госці з Гародзькаў, Дубіны, Смаргоні, Маладзечна, Мінска і нават Украіны. Для ўсіх іх урачыстасць не проста незвычайная, а нават гістарычная.

## Капыцікі – свята свежаніны

Адзначаць Капыцікі Грынь пачаў год пяць таму. Сабраліся з сябрамі і задумалі зладзіць нешта такое, нібы вярнуць з уласнага дзяцінства і перанесці ў сёння. Прыгадалі, што ў дзяцінстве перад зімой традыцыйна бацькі ладзілі свята, калі свежавалі кабана, парадкавалі на зіму мяса, рабілі кілбасы. І вырашылі наладзіць штосьці падобнае.

З таго часу штогод у засценку Спрыплеў збіраліся на Капыцікі. Менавіта так на Валожыншчыне называюць дзень, калі мужчыны б'юць кабана, разбіраюць. Жанчыны гатуюць крывянку, каб частаваць памагатых. Як асноўнае па мясу спарадкуюць, ідуць у дом. Тут гаспадары частуюць. Ніхто з суседзяў, якія дапамагалі з кабаном, не застаюцца без гасцінца.



Госці з Украіны Людміла Аліева, Людміла Вострыкава і Ала Кавальчук.



Юры Кавальчук, Людміла Вострыкава, Людміла Аліева, Васіль Грынь.

## Кілбасы па старым рэцэпце і сікун

Васіль Грынь займаўся кабаном 7 лістапада. Пакуль сваіх не мае, таму купіў у суседняй вёсцы па чатыры рублі за кілаграм. У гаспадара, які дакладна не корміць жывёлу камбікормам, а толькі чыстай ежай. Парадкаваў мяса, падвешваў кумпяк, нарабіў пальцам пханых кілбас. Прычым рабіў не так, як цяпер – праз мясарубку. А ўсё па бабуліным рэцэпце, з нарэзанага маленькімі кавалачкамі мяса. Спачатку кілбасы сушыліся над печчу, а праз тыдзень можна пераносіць у халоднае месца.

Яшчэ адна традыцыйная страва – сікун. Мачавы пузыр начыняюць фаршам, адмысловым чынам гатуюць і пакідаюць захоўвацца аж да Вялікадня.

Сярод гасцей былі паляўнічыя, якія згатавалі шурпу з качкі, і рыбаловы, якія зварылі юшку са свежай рыбы.



Пасля таго, як прыгатавалі стол, госці ідуць у дом. Святкаваць, частавацца, іграць, танцаваць, разважаць.



Госці сёлетніх Капыцікаў у засценку Спрыплеў.

## Аж аблізваліся

Капыцікі – гэта свята, якое значыць: мы да зімы мясам назапасіліся. Таму можна спакойна і адзначаць. Пасля свята надыдзе пост, таму госці гуляюць з душой. У хаце гасцей чакалі музыкі, госці размаўлялі і жартавалі.

– Мы яшчэ гусь у печы запяклі, усе аж аблізваліся, – расказвае Грынь. – З мясам добра салёныя агуркі, кіслая капуста. Усё без ніякіх ГМА і ўзмацняльнікаў смаку.

## Бабулі гулялі да трох ночы

Госці частаваліся і весяліліся. Фальклорны гурт «Гарына» з украінскага Роўна разнастаіў музыкай і танцамі.

– Прыехалі пяцёра з Украіны, – расказвае гаспадар. – І былі проста ў захапленні ад Беларусі! Як спявалі, як жа ігралі! Ганаровымі музыкантамі былі ўдзельнікі гурта «Мярэжа». Бабулі, якім пад 90 год, слухалі з замілаваннем. Казалі, усё, як у іх маладосці. Да трох ночы гулялі!

Грынь лічыць, што ў захаванні мясцовых традыцый і ёсць яго місія:

– Сталым людзям важна бачыць, што іх культуру памятаюць і шануюць. Гарадскія ўнукі не хочуць браць гасцінцы з вёскі. Кажуць, усё ёсць у магазіне. Што ў тым магазіне: бульба з Егіпта і памідоры з Турцыі? Я ж імкнуся, каб культура чыстай, свойскай ежы, страў і традыцый працягвалася. Каб хоць маленечкі кавалачак з майго дзяцінства захаваць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота забяспечанае Васілём ГРЫНЕМ.**



Фота забяспечанае Алесяй РАДЗЯЛОЎСКАЙ.

Віляйчанка Ксюша Арцімовіч на тыдні беларускай моды ў Мінску.

# Сямігадовая мадэль з Вілейкі скарыла сталічны подыум

**7 лістапада жыхарка Вілейкі, сямігадовая Ксенія Арцімовіч, паўдзельнічала ў мерапрыемствах тыдня беларускай моды ў Мінску. Дзяўчынка – выхаванка танцавальнага калектыву «Фарсаж», што працуе пры Вілейскім цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

ВІЛЕЙКА

### Удзел у паказах вымагае нямала часу і грошай

Пра гэта карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» расказала педагог Ксеніі кіраўнік «Фарсажу» **Алеся Раздзялоўская:**

– Нас запрасіла дырэктар мадэльнага агенцтва «Школа прыгажосці k&s models agecy» **Крысціна Шчасная**. Летась мы сталі прызёрамі конкурсу «Горад шчасця» і атрымалі сертыфікат на паездку ў Грэцыю. Аднак аплачвалася толькі частка тура, астатнюю суму бацькі вілейскіх дзетак «не пацягнулі». Таму ніхто не паехаў.

Крысціна Шчасная тады была ў журы. Яна запомніла вілейскі танцавальны калектыў і запрасіла дзяцей і педагога на тыдзень беларускай моды. Запрашалі ўсіх ахвотных дзяцей. Але ўдзел у такіх праектах патрабуе часу і грошай: трэба часта ездзіць на прымеркі і рэпетыцыі.

У выніку пагадзіліся толькі бацькі Ксюшы. Яны вельмі хацелі ажыццявіць мару дачкі – паспрабаваць сябе ў ролі мадэлі.

> **– На паказе была прамая трансляцыя, шмат СМІ, фатографы, – прыгадвае Алеся. – Эмоцыі зашкальвалі. Вакол прыгожае адзенне: ад спартыўных касцюмаў з бітамі да сукенак з дыядэмамі.**

Ксюша прадстаўляла калекцыю «Нефармат» мінскага дызайнера **Анастасіі Фальковіч**. Адзенне ў калекцыі – спакойных колераў.

– Было шмат цяжкасцяў, нават для мяне, – прызнаецца Алеся. – Я харэограф, а не трэнер мадэляў. У танцы вучым тэхніцы рухаў, сінхроннасці. У дэфіле – крыху па-іншаму. Даводзілася вучыцца і мне. Тут важна трымаць спіну, не падымаючы плячэй, ісці правільна, лёгка перастаўляючы ногі ў рытм. На твары – абавязковая ўпэўненасць і ўсмешка.

### Трымаць спіну, ісці лёгка і абавязкова ўсміхацца

Ксюша са сваёй настаўніцай танцаў ездзілі на заняткі да Крысціны Шчаснай. Яна паказала, як і над чым працаваць. Далей займаліся ўжо самі ў Вілейцы: і педагог, і мама дзяўчынкі. Алеся ўдзячная бацькам Ксюшы за цярпенне і ўзаемаразуменне.

– Самой Ксюшы было цяжка, – кажа Алеся. – То пра спіну забывалася, то пра тое, як прыгожа ісці. Але на самім мерапрыемстве Ксюша засяродзілася і выступіла дастойна. Былі дзеці, якія займаюцца некалькі год, а мы першы раз, ды яшчэ за такія кароткія тэрміны. Ксюшу заўважылі, адзначылі яе стараннe, уважлівасць, упэўненасць.

### З пакарэннем Львова вырашылі пачакаць

Першага снежня юную вілейскую мадэль запрасілі ў Львоў дэманстраваць адзенне ўкраінскіх дызайнераў. Але мама вырашыла, што дзяўчынка пакуль маленькая для такога мерапрыемства. Ды і школу прапускаць не варта.

– Ці стане Ксюша мадэллю, не ведаю. Але гэта мерапрыемства запомніцца ёй на ўсё жыццё. А я пачынаю думаць над тым, што трэба пачаць выкладаць дэфіле. Танцы і дэфіле добра ўзаемадапаўняюцца. Вось каб яшчэ і вілейскі дызайнер знайшоўся! – падзялілася сваімі планамі Алеся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дзённік мамы другакласніцы: збіраем пластыкавыя накрыўкі і цікавыя навіны

**Першая чвэрць другога класа праляцела незаўважна. «Так і да адзінаццатага нядоўга», – справядліва адзначыла наша другакласніца.**

Адзнакамі за першую чвэрць пахваліцца не можам, бо ў другім класе іх пакуль не ставяць. Праўда, адна дзясятка ёсць. Яе Вара атрымала ад настаўніка па дудцы. Іграць на дудцы дачцэ па-ранейшаму падабаецца. Часцей за ўсё, робіць гэта сама без бацькоўскага кантролю. Ужо ўмее іграць пару беларускіх народных песень. Расказвала, што настаўнік яе і ўсіх сваіх вучняў-музыкантаў называе «маэстра».

> **Толькі вось суседзі нашы чамусьці Варыну дудку не вельмі ўпадабалі. Як толькі дзіця пачынае музыцыраваць, грукаюць у сцяну. Але мы дамовіліся не звяртаць увагі: трэба ж дзіцяці займацца. Тым больш дудзім у дазволены час, не позна ўвечары.**

І ўсё ж дудка – гэта не барабан. А што будзе, калі Варвара гэтым інструментам зацікавіцца?

На асенніх канікулах з настаўніцай і аднакласнікамі Вара ездзіла на экскурсію на керамічны завод у Радашкавічы. Пабыла ў цэхах, у музеі. Сказала, што вельмі спадабалася, як майстар рабіў гаршчок на гліняным крузе і як работнікі размалёўвалі гаршкі.

У падарунак на памяць пра экскурсію атрымала прыгожы чырвоны кубак. А ў фірменнай краме побач з заводам набыла сувенір – керамічнага снегавіка для ўсёй сям'і. Тым самым нагадала, што да зімы і Новага года засталося зусім крыху.

> **На канікулах са старэйшай сястрычкай гасцявалі па чарзе ў дзвюх бабуль. Наведалі кінатэатр у Маладзечне, схадзілі ў піцэрыю. Былі і ў бібліятэцы. Вара выбрала сябе вялікую кнігу пра сваіх любімых персанажаў – смяшарыкаў.**

У чацвер на ўрокі пасля канікулаў ішла з задавальненнем. Казала «Лепшую сяброўку Дашу ўбачу, на дудцы пайграю». Сапраўды, што яшчэ трэба для шчасця? Тым больш у першыя дні пасадзілі з добрым хлопчыкам, які (нарэшце!), у адрозненне ад іншых, не перашкаджае вучыцца.

Ад пачатку чвэрці наша школа ўдзельнічае ў акцыі па зборы пластыкавых накрывак ад бутэлек. Паколькі такіх напояў мы купляем няшмат, збіраем накрыўкі ва ўсіх магчымых месцах. А трэба ж яшчэ і на дваіх дзяліць, бо і Юлін клас удзельнічае.

Яшчэ ў класе з'явілася новаўвядзенне. На інфармацыйную гадзіну, што адбываецца кожны панядзелак а восьмай, трэба завесці сшытак. У яго ўклейваць цікавыя навіны з газет, каб знаёміць з імі аднакласнікаў. Днямі завялі такі сшытак і мы. Здагадайцеся, з якой газеты бяром навіны?

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота cp.by.com.

На экскурсіі ў Радашкавічах Варвары спадабалася, як лепяць на ганчарным крузе і распісваюць гаршкі.

## Маладзечанцы зладзілі спаборніцтвы па бегу

МАЛАДЗЕЧНА

**10 лістапада ў Маладзечне сабраліся аматары бегу. Удзельнікі змагаліся, хто больш прабяжыць за гадзіну.**

Усяго ў адкрытым першынстве Маладзечанскага раёна па гадзінным бегу на стадыёне ўдзельнічала каля ста чалавек. Прыблізна 30 чалавек прадстаўлялі мясцовы клуб «Рэгіён».

Абсалютным пераможцам спаборніцтваў стаў **Андрэй Вашкоў**, які прыехаў з Расіі. За гадзіну ён пераадолеў дыстанцыю 17,5 кіламетра.

Сярод жанчын ва ўзроставай групе 30-39 год першае месца ўзяла **Таццяна Куцакова** са Смаргоні з вынікам 13,6 кіламетра. У групе 40-49 маладзечанка **Вікторыя Дыдышка** атрымала трэцяе месца за дыстанцыю 10 кіламетраў.

У групе 50-59 перамагла **Галіна Кавалёва** з Маладзечна з дыстанцыяй 12,4 кіламетра. Маладзечанка **Святлана Кошалева** на трэцім месцы з вынікам 10,4.

Сярод мужчын у групе да 18 год перамог маладзечанец **Сяргей Закоркін** з дыстанцыяй 15,6 кіламетра. У групе 18-29 трэцяе месца заняў маладзечанец **Вадзім Кушнір** з 16,4 кіламетра.

У групе 60-69 год першым стаў маладзечанец **Васіль Лябецкі** з дыстанцыяй 13,6 кіламетра. У групе ад 70 год маладзечанец **Аляксандр Цімафеенка** заняў другое месца з дыстанцыяй 11,6.

Васіль Лябецкі адзначыў, што беглася вельмі лёгка. Хаця было пахмурна, ветрык не дакучаў. Бегуну радасна, што змог абысці на 40 метраў **Канстанціна Мядзведзя** з Мінска, якому раней саступаў.

Усе ўдзельнікі атрымалі медалі, прызёры – яшчэ і граматы. Пасля спаборніцтва бегуноў чакаў душ, кава з прысмакамі.

Адзін з удзельнікаў з Мозыра пракаментаваў першынство: «Дзякуй за цёплую сустрэчу, за гарачы чай на фінішы. Усё было класна, уключаючы музыку і прыгожых дзяўчат, якія мяне абганялі!».

**Аддзел інфармацыі.**





Фота забяспечанае Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

Падчас спаборніцтва.



Фота Сяргея ПЛЮТО.

Момант гульні ФК «Смаргонь» з «Лідай».

# «Яны нам патрапалі нервы»

## У апошняй гульні сезона «Смаргонь» саступіла «Лідзе»

СМАРГОНЬ

**Розыгрыш 30-га тура прайшоў 10 лістапада на дамашнім стадыёне.**

Адзіны гол з боку гаспадароў забіў **Уладзімір Казко** на 37-й хвіліне. Ад гасцей мячы заляталі на восьмай, 24-й і 58-й хвілінах.

«Мядзведзі» закончылі чэмпіянат на 11-м радку турнірнай табліцы з 28-мю ачкамі. «Ліда» завяршыла турнір на чацвертым радку. Каманда на адно ачко саступае папярэдняй бабруйскай «Белшыне».

**Аляксей Дварэцкі**, які выконвае абавязкі галоўнага трэнера, пракаментаваў гульню для прэс-службы ФК «Смаргонь»:

– Найперш дзякую балельшчыкам за падтрымку цягам усяго сезона. Дзякуй, што прыходзілі на стадыён і падтрымлівалі каманду, нягледзячы ні на надвор'е, ні на вынік. Рыхтаваліся, як і да папярэдніх матчаў. Па логіцы, павінны былі здабыць гэту доўгачаканую перамогу. Але клас «Ліды», індывідуальнае майстэрства іх футбалістаў апынуліся вышэйшымі.

**Апошняя дамашняя гульня, настройваліся, перастройваліся, але індывідуальныя памылкі нашых гульцоў прывялі да прапушчаных галоў. У выніку ёсць тое, што ёсць.**

Галоўны трэнер ФК «Ліда» **Сяргей Саладоўнікаў** заўважыў, што «Смаргонь» гуляла добра. Ён падзяліўся з прэс-службай смаргонскага футбольнага клуба:

**– Мы сёння гулялі супраць вельмі добрай каманды, вельмі амбіцыйнай. Было відаць, што «Смаргонь» хацела сёння выйграць апошні дамашні матч.**

У «Смаргоні» быў добры рух, прэсінг добры. Яны нам сёння патрапалі нервы. У хуткасць мы прайгравалі, асабліва ў першым тайме. Сапернік прымушаў нас памыляцца.

**Аддзел інфармацыі паводле прэс-службы ФК «Смаргонь».**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Чысць» атрымала тэхнічны пройгрыш

МАЛАДЗЕЧНА

На гульню 10 лістапада каманда не выехала на гасцявое выступленне ў Светлагорск.

Яна атрымала тэхнічнае паражэнне.

«Чысць» займае дзясяты радок турнірнай табліцы.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» вырвала два радкі ў апошняй гульні сезона

МАЛАДЗЕЧНА



Фота ФК «Будпром».

Маладзечанцы на апошняй гульні сезона сышліся з гомельскай камандай.

У апошняй гульні сезона маладзечанская каманда выступіла ў Гомелі з «Бумпрамам».

Гаспадары забілі два галы – на 32-й і 64-й хвілінах.

Маладзечанцы атакавалі гамяльчан чатыры разы: **Сяргей Крот** – на сёмай хвіліне, **Мікіта Дудо** – на 24-й, **Віталь Пачкоўскі** – на 48-й, **Міхаіл Хаткевіч** – на 82-й.

Перамога аднесла маладзечанцаў з 11-га на дзявяты радок турнірнай табліцы.

## «Ашмяны-БДУФК» прайгралі Брэсту

На розыгрыш 30-га тура каманда выехала на спаборніцтва ў Брэст.

Гульня скончылася з лікам 1:0 на карысць гаспадароў.

«Ашмяны-БДУФК» займаюць чацверты радок турнірнай табліцы. Іх абагнаў рэчыцкі «Спадарожнік».

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Знак для абазначэння ліку.
4. Выпадкова, ненаўмысна.
6. Лёгкая лодка, выдзеўбаная з дрэва.
8. Сухія сцёблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту.
9. Яе працягласць у Беларусі – 5480 кіламетраў.
10. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння.
13. Тое, што ўтвараецца ад няпоўнага згарання; нараст ад гарэння.
14. Трэці месяц каляндарнага года.
15. Паняцце, уяўленне, якое праўдзіва або памылкова адлюстроўвае рэчаіснасць у свядомасці чалавека і вырашае яго адносіны да навакольнага свету.
16. Старажытнае скандынаўскае і ірландскае народнае герaічнае сказанне.
20. Рэзкі, высокі гук, які ўтвараецца моцным выдыханнем паветра праз сціснутыя губы ці зубы.
21. Наведнік, абанент грамадскай бібліятэкі.
22. Норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-небудзь.
23. Паглыбленне ў сцяне.
24. Пасудзіна з носікам і ручкай, у якой заварваюць чай або гатуюць ваду.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Рухомае злучэнне дэталяў, канструкцый, якое дазваляе змацаваным часткам паварочвацца пад вуглом.
3. Частка збудавання, канструкцыі, якая складаецца з некалькіх дэталяў.
5. Іх называлі паўночнымі людзьмі ў Еўропе.
7. Функцыю гэтай структуры на беразе Паўднёвай Амерыкі ў 16 стагоддзі выконваў чаравік, што вісеў на дрэве.
11. Дробныя пласцінкі, якімі пакрыта цела рыб, яшчарак, змей.
12. Адлегласць, прамежак, прастора, якая аддзяляе адзін прадмет ад другога.
17. Яе калекцыянавалі Клеапатра, Клаўдзій, Калігула, Нерон.
18. Насякомае, падобнае да конiка, якое вялікімі чародамі пралятае і нішчыць пасевы; небяспечны шкоднік сельскай гаспадаркі.
19. У часовае карыстанне за плату.
24. Вестка, паведамленне.
25. Гэту прыладу ў Сярэднявеччы выкарыстоўвалі на караблях у медыцынскіх мэтах – замест анестэзіі.
26. У напрамку, процілеглым першапачатковаму руху; у зваротным напрамку.

## Адказы на крыжаванку з №45

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Шурф. 3. Развод. 4. Унутр. 6. Раман. 8. Мільён. 10. Макарона. 13. Робат. 14. Шчотка. 15. Услон. 16. Рагуля. 21. Дэльта. 23. Мазаіка. 24. Глобус. 25. Ліфт. 29. Шавец.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Бульба. 5. Раўнд. 7. Ванілін. 9. Міна. 11. Участак. 12. Ураджай. 17. Рагу. 18. Магма. 19. Мост. 20. Вандалы. 22. Бельгія. 26. Штат. 27. Удар. 28. Эвалюцыя.



## ● ГАРАСКОП 16-22 ЛІСТАПАДА

**АВЕН.** Моцны эмацыйны парыў прадвызначыць далейшы ход падзей у вашым жыцці ў бліжэйшыя дні. Настала пара прысвяціць час дамашняму ачагу ў розных сэнсах гэтага слова.

**ЦЯЛЕЦ.** Успаміны пра мінулае, пра ваша дзяцінства, сустрэчы са сваякамі і вяртанне да сваіх каранёў дазволяць знайсці неабходную вам апору ў жыцці, каб смела глядзець у будучыню. З'явяцца неабходныя сілы, адкрыюцца перспектывы, і вы пачнеце рухацца па шляху да дасягнення доўгачаканага спакою і гармоніі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Перыяд эмацыйнага застою, але ён пойдзе вам на карысць. Гэты час дазволіць разабрацца ў сабе, у сваіх пачуццях і жаданнях, высветліць карані свайго негатыўнага стаўлення да таго, што адбываецца, адмовіцца ад непатрэбнага і звярнуць увагу на тое, што вам сапраўды трэба.

**РАК.** Вельмі актыўныя дні, багатыя на новыя пачынанні, новыя ідэі і пачуцці з далёка ідучымі наступствамі. Вас будзе наведваць шмат выдатных думак, якія варта рэалізаваць. Цяпер вы можаце прыдумаць або стварыць нешта новае і нешта вельмі прыгожае.

**ЛЕЎ.** Для таго, каб у жыцці з'явілася месца для новай і светлай падзеі ці пачуцця, неабходна пазбавіцца ад старых поглядаў, звычак, якія перашкаджаюць вам паўнавартасна жыць, глядзець наперад і бачыць станоўчыя перспектывы.

**ДЗЕВА.** Запланаванае збудзецца. Але ваш поспех крыецца ва ўважлівым вывучэнні сітуацыі і прытрымліванні выразна ўстаноўленага плана. Менавіта няспешнасць і паслядоўнасць дазволяць вам дасягнуць наступнага этапу вашай дзейнасці, якой бы сферы яна ні тычылася.

**ШАЛІ.** Вы будзеце адчуваць сябе лёгка, вам будуць лёгка давацца любыя справы. Спрыяльны перыяд для тых, хто хоча спазнаць сябе.

**СКАРПІЁН.** Ад вас спатрэбіцца кемлівасць, але не лёгкая і гарэзная, а ўдумлівая і глыбокая. Праявіце ўважлівасць і ўседлівасць, не выпускайце з-пад увагі дробязі, думайце даволі шырока і глыбока. Гэта дасць вам магчымасць не ўпусціць удалы момант і выкарыстоўваць па поўнай тыя магчымасці, што ён вам дасць.

**СТРАЛЕЦ.** Моцны парыў не дазволіць вам сядзець на месцы і нічога не рабіць. Толькі халодны і цвярозы разлік, а таксама падаўленне эмоцый дазволяць вам трымаць сітуацыю пад кантролем (асабліва фінансавую) і не пусціць справы на самацёк.

**КАЗЯРОГ.** Любыя крайнасці і празмернасці цяпер вам процiпаказаныя. Шукайце ва ўсім залатую сярэдзіну, і тады вы зможаце здабыць гармонію. Пасля зможаце расслабіцца і адпачыць, перш за ўсё, маральна.

**ВАДАЛЕЙ.** Дні цяжкія ва ўсіх адносінах. Затое з'яўляецца магчымасць зрабіць апошні рывок, прыкласці намаганні і давесці пачатае да канца. Тады будзе нагода адзначыць вынік сваёй дзейнасці і парадавацца таму, чаго вы дасягнулі.

**РЫБЫ.** Не варта адмаўляць у дапамозе іншым людзям, і тады можна смела разлічваць на тое, што вам таксама дапамогуць, калі такая неабходнасць узнікне.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | 5 | | | 8 | | | |
| 6 | | 2 | 5 | 4 | | | | |
| 7 | | | 3 | | 9 | 6 | | |
| 8 | 1 | | | | | | | 3 |
| | | 9 | | | 1 | | | |
| | 5 | | | | | 4 | 8 | |
| | 7 | | | | 6 | | | 4 |
| 2 | | | | 8 | | 9 | 6 | |
| | | 3 | | 2 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**Рэгіянальная газета.** Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Хто пераможа ў акцыі «Не губляй ніводнага дня» і чыё фота ўпрыгожыць каляндар «Рэгіянальнай газеты» на 2019 год, чытайце ў наступным нумары.



## Чай і свежая газета – будзе восень, быццам лета



### Падпісацца на «РГ» можна:

- праз сайт «Белпошты»

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- на пошце
- праз паштальёна
- праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 17 лістапада, субота




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -8,6°С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +8,1°С у 2013 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,3 мм у 2005 годзе

Паводле meteoinfo.by.






Ілюстрацыя забяспечана Маладзечанскім ГРАНС.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якое ваша самае галоўнае дасягненне ў жыцці?



**Настасся Захарыч, эканаміст, у дэкрэтным адпачынку:**

– Самае галоўнае для мяне – гэта мая сям'я, каханы муж і двое нашых выдатных дзетак, Ліза і Рома.



**Надзея Райкова, мае педагагічную адукацыю, у дэкрэтным адпачынку:**

– Самае вялікае дасягненне ў жыцці – мае дзеці. Лепшы працяг мяне – дачка і сын. Я ганаруся імі.



**Іван Бялкоў, тэлеаператар:**

– Мне толькі 30, за гэты час хобіператварыў у працу, якую вельмі люблю. Сёння дасягненне не вельмі сур'ёзнае, але я ганаруся. Навучыўся большменш здымаць, ндярэнна мантаваць і разбіраюся ў тэме стварэння фільмаў. Спадзяюся, гэты досвед і веданне дапамогуць дасягнуць новых мэтаў.



**Алена Алейнікава, у дэкрэтным адпачынку:**

– Ранавата ў 32 падводзіць вынікі і гаварыць пра самыя вялікія дасягненні ў жыцці. Дзесяць гадоў таму дасягненнем было заканчэнне ўніверсітэта. Пяць гадоў таму – тое, што кіраўнік ацаніў працоўныя якасці і павышэнне па пасадзе. Цяпер дзеці – вялікае дасягненне. Самае вялікае дасягненне яшчэ наперадзе.



**Юры Казлоўскі, кіроўца:**

– Ну, «дасягненне» – гэта гучнае слова, для кагосьці «дасягненне» і смецце выкінуць. Так што маё самае галоўнае дасягненне яшчэ наперадзе.



**Ігар Ананьеў, кіроўца:**

– Пайшоў па правільным шляху ў выбары прафесіі. Цяпер з'яўляюся спецыялістам, якому проста знайсці працу. Яшчэ ў дзяцінстве бачыў грузавыя машыны і марыў, што буду зарабляць грошы, працуючы на падобнай машыне. Ад 18 гадоў працую на грузавіках, і гэта мне вельмі падабаецца.



**Юлія Хайлава, аператар свінагадоўчага комплексу:**

– Маё дасягненне – тое, што я навучылася быць задаволенай тым, што маю: добрая праца, сваё жыллё, моцная і дружная сям'я. Навучылася цаніць жыццё і самастойна змагацца з цяжкасцямі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1229) 16.11.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1120. Падпісана ў друк у 9.00 15.11.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.